Наша
# Свабода

№53(140) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

25 ТРАЎНЯ
2001 года
ПЯТНІЦА

Адрас:
220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail:
NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



## Смаргонскія чыноўнікі за «Светлый путь»

Смаргонскі райвыканкам забараніў дзяржаўным установам, прадпрыемствам і ведамствам раёна выпісваць недзяржаўнае выданне «Новая газета Сморгони».

Гэта ўжо не першая спроба мясцовых уладаў абмежаваць распаўсюджванне незалежнай інфармацыі. Год таму «Новая газета Сморгони» апублікавала дакумент за подпісам старшыні райвыканкама Мікалая Кавалёва, які абавязаў усе дзяржаўныя структуры падпісацца на афіцыйную раённую газету «Светлый путь» і «ўстрымацца» ад фінансавай падтрымкі недзяржаўнага выдання.

## Киноприз Дмитрию Завадскому

С 17 по 20 мая в польском городе Шечине прошел ежегодный международный фестиваль документальных фильмов. Фестиваль проводится под патронажем президента Польши А.Квасьневского и при поддержке министерства культуры Польши. В нынешнем году в конкурсе участвовало 45 документальных фильмов, представлявших практически все страны Европы. Также были фильмы документалистов из Ирана, Туниса. Все они прошли предварительный отбор специальной комиссии 2-го канала польского национального телевидения.

Международное жюри конкурса, в состав которого входили режиссеры из Голландии, Германии, Швеции, Польши, выбирали лучшие фильмы по пяти номинациям: лучший фильм, лучший режиссер, лучшая операторская работа, лучшая тема и лучший сценарий. Приз за лучшую операторскую работу получил оператор ОРТ Дмитрий Завадский за документальный фильм о чеченской столице «Город – призрак» из документального цикла «Чеченский дневник». Напомним, что этот сериал был показан по ОРТ в июле 2000 года (автор – Павел Шеремет, режиссер Сергей Головецкий, оператор – Дмитрий Завадский). За несколько дней до премьеры сериала Дмитрий Завадский бесследно исчез в Минске. Приз международного фестиваля в Шечине будет передан семье Дмитрия Завадского.

## Мінскі фарпост ФПБ

23 траўня для Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай сталася знамянальнай падзеяй: гэтым днём было ўтворанае Мінскае гарадское аб'яднанне 27 галіновых прафсаюзаў ФПБ, якое аб'яднала звыш 60 тысячаў чалавек. Да гэтага часу, як ні дзіўна, Федэрацыя не мела сталічнай арганізацыі – дзейнічала толькі аб'яднанне галіновых прафсаюзаў Мінска і вобласці ды каардынацыйныя рады прафсаюзаў па раёнах – арганізацыі разнастайныя і аморфныя. Аднак набліжэнне прэзідэнцкай кампаніі, у якой будзе браць удзел і старшыня ФПБ Уладзімір Ганчарык, вымагала стварэння сталічнай структуры – моцнай, арганізаванай. Тым болей, што ўлада, разумеючы важнасць мінскага электарату на прэзідэнцкіх выбарах, неаднаразова спрабавала перахапіць ініцыятыву ды стварыць у горадзе «жоўты» прафсаюз. Правячы рэжым, нягледзячы на ранейшыя паразы, усё ж такі не спыніў спробаў уплываць на сталічныя прафсаюзы і паспрабаваў ускочыць у апошні вагон, вылучыўшы на пасаду старшыні аб'яднання лаяльнага сабе чалавека – намесніка старшыні аб'яднання арганізацыяў галіновых прафсаюзаў Мінска і вобласці Чэслава Федаровіча. Выбар уладаў на згаданую фігуру невыпадковы: дагэтуль улады мелі адносіны са сталічнымі прафсаюзамі ў многім праз яго.

Заканчэнне на стар.3

## Школьны званок

Напрыканцы траўня па ўсёй краіне звіняць традыцыйныя «апошнія званкі», якія адначасна радасна і тужліва абвяшчаюць пра сканчэнне ў школах чарговага навучальнага года. Гэтая трапяткая і ўрачыстая падзея адбываецца ў пяці тысячах розных гарадскіх і сельскіх школах, а таксама ліцэях і гімназіях. Як ужо было неаднойчы цягам дзесяткаў гадоў, яго з самымі рознымі пачуццямі прычакалі і першакласнікі, і выпускнікі. Адныя стаяць гэтымі днямі на школьных лінейках, думаючы, што ім яшчэ вучыцца і вучыцца. А можа і з зайздрасцю пагладаюць на самых старэйшых, якія ўжо пакідаюць школьныя сцены і мяркуюць, які жыццёвы шлях абраць далей. Кім яны стануць, зараз не ведае ніхто. Аднак, хочацца верыць, што гэта будуць прыгожыя, разумныя і сумленныя людзі.

А многія з тых, хто стаіць апошнімі травеньскімі днямі каля сваіх школаў на лінейках, проста знецярпеліся па вакацыях, самых доўгіх на працягу года, і пад гукі школьнага званка мрояць сабе пра тое, як будуць бавіць час летнімі месяцамі. У чэрвені, ліпені і жніўні яны апынуцца хто ў бабулек у вёсках, хто дзе-небудзь на моры далёка ад Беларусі. А ўсіх, хто даўно скончыў школу і бачыць дзяўчо ў школьным строі на плячы выпускніка, на колькі хвілінаў ахутваюць згадкі пра тую пару. Як дарылі кветкі настаўнікам, рыхтавалі хатнія заданні, пісалі дыктоўкі, атрымлівалі пяцёркі, як вучылі напамяць вершы на роднай мове, што хаваць грэх, спісвалі і прагульвалі нелюбімыя ўрокі. Без школы, здаецца, жыццё было б няпоўным. Таму мы ніколі не зможам абыякава паглядаць на «апошнія званкі».


Фота IREX/ProMedia

# Синицын, на орла похожий

*(Субъективное осмысление некоторых явлений прагматизма-коммунизма)*

Скажу сразу, во избежание недоразумений: Леонид Синицын мне нравится. Как образцовый представитель нарождающейся буржуазии, как хороший семьянин, как приятный внешне человек, как водитель сразу двух автомобилей, как обладатель сразу двух гаражей. Он мне нравится как основательный и самостоятельный человек, с удовольствием и знанием дела занимающийся созиданием чего-то нового, как инженер-строитель по образованию, как составитель смет и планов местности, как производитель строительных материалов и всяческих монументальных конструкций. Именно там его место, его призвание, его боль и радость свершений.

Но Леонид Синицын мне активно не нравится в образе политика, депутата верховной власти, главы какой-нибудь бессмысленной администрации или председателя какой-нибудь занюханной бюрократической комиссии. Он мне крайне неприятен в образе ходока, адвоката и радетеля за интересы недалеких и тупых людей, грабящих и разрушающих нашу страну. Он мне отвратителен в образе «молодого прагматика», этакого нового Дракулы, присосавшегося к агонизирующей экономике своей Родины и со знанием дела обделывающего втихаря свои мелкие делишки, называемые у нас бизнесом. Он мне враждебен как субъект, который непосредственно причастен ко всему тому бардаку, в котором нынче проходит наша жизнь, как добрый приятель мошенников, спекулирующих святыми чувствами братства и дружбы славянских народов и сделавших из страны проходной двор.

Итак, Леонид Синицын уже ходил во власть. Именно ему и еще одному представителю «неопрагматизма» — Дмитрию Булахову — мы обязаны всенародной семилетней головной болью, называемой нынче «первый этап правления президента РБ». Тогда, в начале девяностых годов, небольшая группа шустрых, беспринципных и амбициозных депутатов Верховного Совета Республики Беларусь начала суетиться в поисках своего куска от государственного пирога.

Окончание на стр.3

# Прадаюць нашыя трубы

У лютым-сакавіку з баранавіцкага завода «Аграпрамбудмаш» (былы камбінат сенажных вежаў) адпраўленыя ў Кітай апошнія вагоны з 186 вагонаў з нашымі трубамі дыяметрам прыблізна 146 міліметраў. У кожным вагоне іх змяшчаецца каля 1.800 метраў. Усяго, значыць, прадалі 334.800 метраў, ці 334,8 кіламетраў трубаў. Пры таўшчыні сценкі трубы 7 мм – гэта будзе 8.035 тон. Пры кошце 1.000.000 рублёў за 1 тону выручка складзе 8 млрд. рублёў, ці 5,5 млн. долараў. І ў асноўным – гэта прыбытак, бо трубы з ваенных базаў у Пружанах і Асіповічах. Засталіся яны нам пасля распаду СССР як савецкая спадчына. Трубы якасныя, ацынкаваныя. Дадаткова ацынкоўвалі яшчэ на заводзе. Ініцыятары продажу – ваенныя. Але ў Кітай ездзіў і дырэктар завода.

Рабочыя з гэтай куплі-продажу нічога не мелі – заробак 5.000 рублёў.

Прадае Лукашэнка і яго паддахавыя усе. Можна зразумець продаж самалётаў, танкаў, але не трубаў. Ды, мусіць, прадалі танна, бо Кітай мог купіць у Казахстане ці Расіі, з'эканоміўшы на транспарце. Можа гэта плата за паездку Лукашэнкі ў Кітай?

Цяпер збіраюцца прадаваць трубы 200 міліметраў дыяметрам у Германію.

Скора прададуць усё. Цеплаводкамунікацыі ў нас старыя. Патрэбна замена труб. Гляджу вечарам па тэлебачанні, як людзі мерзнуць у Прымор'і, у Расіі. Гляджу ў акно і бачу, як у садзіку № 41 ужо не першы раз рамантуюць трубавыя парывы. Пакуль яшчэ могуць адрамантаваць, хоць траціцца многа матэрыялаў, рабочага часу.

На новае будаўніцтва патрэбныя дзяржаўныя інвестыцыі. Тыя ж трубы імі з'яўляюцца. А яны прадаюць, каб нахапаць з таго, што належыць усім. Палата прадстаўнікоў маўчыць, нават запыт не зробіць, бо яны адно.

І ў другім месцы можна выкарыстоўваць гэтыя трубы. На Брэстчыне мінеральныя воды залягаюць на глыбіні 100 м (Столін), 200 м (Баранавічы, Івацэвічы) і глыбей. Якраз гэтыя трубы можна выкарыстаць для будаўніцтва свідравін. Можна іх будаваць у невялікіх мястэчках, вёсках, каля аўтатрас. У прыдарожнай карчме свая вада. Вось гэта будзе беларускі сэрвіс – смачна і танна. Цяперашнія лукашэнкаўскія вадзяныя алігархі навязваюць цэны на ваду даражэйшую за малако.

**Аркадзь БЛІНКОЎСКІ,**
**Баранавічы**

## У дзяржструктурах за Лукашэнкам цяжка

Намеснік старшыні Брэсцкага аблвыканкама Уладзімір Сцяпанаў напісаў заяву аб адстаўцы. Сваё рашэнне ён патлумачыў немагчымасцю болей працаваць пры цяперашнім рэжыме ў дзяржаўных структурах.

## Страты ад замаразкаў

Уначы з 22 на 23 траўня ў выніку замаразкаў пацярпелі сельскагаспадарчыя ўгоддзі ў Кобрынскім раёне. Усяго гэта каля 1.200 гектараў, пераважна пасевы бульбы, кукурузы, буракоў і льну.

## Прывезлі «Фердзідурке»

На сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы ўчора быў паказаны спектакль «Фердзідурке» ў выкананні акцёраў Люблінскага тэатра «Правізорум». Яшчэ адзін раз палякі яго пакажуць 31 траўня.

## Першы чатырохзоркавы

Сталічны гатэль «Мінск» будзе першым у Беларусі, хто займее чатыры зоркі якасці. Гэта стане магчымым пасля завяршэння тут рэканструкцыі, якая распачалася ў красавіку гэтага года. Будаўнічыя работы праводзяцца пры фінансаванні аднаго з турэцкіх банкаў.

## Урачы прагназуюць пандэмію грыпу

У Беларускім навукова-даследчым інстытуце эпідэміялогіі і мікрабіялогіі занепакоеныя досыць працяглым тэрмінам адносна добрай сітуацыі з захворваннямі на грып – з кароткімі і немаштабнымі эпідэміямі. Урачы прагназуюць, што грыпавая пандэмія можа абрынуцца ўжо наступнай зімой.

## Пленэр на Полаччыне

Беларуская асацыяцыя клубаў ЮНЕСКА з 29 траўня па 2 чэрвеня праводзе ў Наваполацку і Полацку III пленэр юных мастакоў «Вясёлка Надзеі», прысвечаны 500-годдзю стылю барока ў архітэктуры Полаччыны.

## Немцы будуюць беларусам царкву

10 тысяч нямецкіх марак сабрана грамадзянамі Нямеччыны на аднаўленне царквы ў вёсцы Мілаславічы Клімавіцкага раёна. Будаўніцтва гэтага храма пры дапамозе дабрачыннай арганізацыі рэгіёну Рэйн-Нае «Дапамога дзецям Чарнобылю» доўжыцца ўжо некалькіх гадоў.

## НАДВОР'Е




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**
**1375**

# Синицын, на орла похожий

*Окончание, начало на стр.1*

Ребята быстро смекнули, что можно создать неплохой задел на будущее, если выручить замшелых коммунистов и старую партийную номенклатуру от затруднений, связанных с запретом на деятельность компартии, что автоматически переводило партийную собственность в ранг общегосударственной. А ее к тому времени еще не успели присвоить. Не были оглашены ее настоящие объемы. Кроме того, надо было прятать концы в воду не только по финансам, но и по массовым расстрелам невинных людей во время правления капэбэшников. А примерные масштабы физического уничтожения белорусов по команде из Москвы показали всему миру Куропаты. Задачку решили при помощи неутомимого краснобайства Булахова, непрерывному броуновскому движению в кулуарах группы молодых да ранних и присутствию в Верховном Совете множества заинтересованных лиц. Был ли в этом процессе Леонид Синицын скрипкой или он был смычком, об этом судить трудно, но хитрым коммунистом он был и тогда. Этаким «реформатором партии», как и Александр Лукашенко, стоящим за «демократизацию» этого гнилого дела.

Группа «неопрагматиков» своей цели добилась и вошла в доверие к воспрянувшим духом ветеранам заседалищ. Дальше – больше. Они пошли на таран Шушкевича, сняли его за ящик гвоздей, и, как сейчас помню, Виктор Гончар гордо заявил во всеуслышание: «Первый беловежский Зубр пал!». Затем старые и новые коммунисты, вопреки усилиям демократических представителей в Верховном Совете, протащили в Конституцию пост президента (Булахов и здесь краснобайствовал), хотя до сих пор вызывает удивление: на кой им был нужен этот пост? Возможно, они испугались, что при нормальном парламенте им будет полная труба. А потом началась мышиная возня «неопрагматиков» вокруг кандидата в президенты Лукашенко, которого они, очевидно, считали недалеким и провинциальным колхозником. Этаким зиц-председателем, прикрывающим их «куски». И Леонид Синицын, который раньше держался в тени, здесь уже играл на первой скрипке – служил в обозе претендента в качестве начштаба. Играл, надо сказать, неплохо, хотя все обстоятельства избрания Лукашенко требуют еще своего непредвзятого исследователя.



Л.Синицын

Ну, а дальше было очень банально: Лукашенко оказался расчетливее и хитрее всех. Он построил всю свою обслугу и показал им их истинное место: в очереди у общего корыта. Наступило разочарование. Некоторое время поболтавшись по правительственным кабинетам, Леонид Синицын на поворотах 1996 года выпал из государственного вагона и исчез в клубах пыли. Во время его деятельности в командной рубке режим прибрал к рукам лучшую собственность в стране, телевидение и газеты, покончил с независимостью банков, закрыл биржи, возродил коммунистическую символику, возобновил демагогию про социализм, изгнал белорусский язык из государственных учреждений, подавил забастовку метростроевцев и т.д., и т.п. К чему из этого причастен лично Леонид Синицын, бог весть. Возможно, что он только с лампой в ногах стоял, но, тем не менее, руки его по локоть в том, от чего никакому политику вовек не отмыться. Если только он не совершит подвиг, в стиле Жанны д'Арк, за который освобождают от налогов.

Именно поэтому у меня нет веры никаким инициативам этого приятного, благополучного и хорошо выглядящего товарища. Он ведь в свое время поручился за Лукашенко, вытолкал его к кормилу власти, а потом вдруг исчез за печкой, оставив нас наедине со своим былым кумиром. Дескать, расхлебывайте, ребята, мой продукт. А сегодня мы с удивлением узнаем, что Леонид Синицын уже видит себя в качестве кандидата в президенты Беларуси и оппонента Лукашенко. Он снова возникает на горизонте в клубах пыли и начинает с критики тех, кто все эти годы пытался хоть как-то противостоять тому государственному бардаку, основы которого заложил сам товарищ Синицын. Делает он это масштабно, интеллигентно и очень убедительно. Сравнивает себя с Анатолием Лебедько, Михаилом Чигирем и Андреем Санниковым, которые когда-то тоже работали в государственных органах при Лукашенко. Правда, обходит вниманием то, что все вышеназванные люди уже который год эффективно противостоят режиму, ежедневно рискуя своей жизнью и благополучием своих семей, в то время как сам Синицын отсиделся в глубоком тылу на продуктовой базе за штабелем валенок, как и положено прагматику.

Восстание из праха такой политической фигуры всегда связывают с появившимися на горизонте большими деньгами. «Молодые прагматики» не напрягаются за бесплатно, это противоречит их жизненному кредо. Выходит, что кто-то отчаянный готов сегодня поставить на Синицына? И действительно, уже разносятся слухи, что спонсор проявился в России в виде некоего крупного чукотского бизнесмена. А пока суть да дело, компания Синицына под сурдинку собирает подписи за признание лукашенковской палаты №2. Зачем? А чтобы признали выборы, которые еще будут (!?)... Ё-моё! Кажется, проведи ты нормальные свободные выборы, их и так признают. Ну, нет! Обязательно надо запустить в народ что-нибудь иезуитское. Обязательно надо приступить к вырезанию аппендицита через задний проход...

Да, непростой человек Леонид Синицын. Я бы даже сказал, что сложный. Солидная добавка к нашей нынешней всенародной головной боли.

**Александр ДУБРАВИН**

# Мінскі фарпост ФПБ

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Таму, зразумела, галоўным на ўстаноўчай канферэнцыі сталася кадравае пытанне: абранне старшыні мінскіх прафсаюзаў. Прэзідыум Савета ФПБ на гэтую пасаду прапанаваў намесніка старшыні ФПБ Мікалая Беланоўскага, захаваўшы за ім гэтую пасаду і надалей. Другім кандыдатам стаў Чэслаў Федаровіч, якога вылучылі прафкамы Мінскіх трактарнага і маторнага заводаў, гарадскі прафкам прафсаюза работнікаў аховы здароўя. Уладзімір Ганчарык патлумачыў выбар кандыдатуры М.Беланоўскага некалькімі прычынамі. Перш за ўсё, сказаў У.Ганчарык, «усе мы хочам, каб адбылося паўнакроўнае аб'яднанне: не толькі каб яно было па форме, але і па сутнасці, што мы, на жаль, бачым дагэтуль». Пры гэтым менавіта Мінскае аб'яднанне «мусіць быць калі не вядучай структурай ФПБ, дык і не картай, якая разыгрываецца не ў інтарэсах прафсаюзаў». Пры гэтым Уладзімір Ганчарык асабліва падкрэсліў, што абранне старшыні – гэта «пытанне не толькі асобаў – гэта пытанне той сітуацыі, якая склалася вакол прафсаюзаў».

Па выніках таемнага галасавання стала вядома, што першым кіраўніком Мінскага гарадскога аб'яднання галіновых прафсаюзаў стаў, як і прагназаваўся, 47-гадовы Мікалай Беланоўскі – за ягоную кандыдатуру аддалі галасы 195 дэлегатаў з 271. Ягоны сапернік Чэслаў Федаровіч набраў 64 галасы. Новае кіраўніцтва сталічных прафсаюзаў пачне працу з 1 чэрвеня.

Стварэнне Мінскага аб'яднання прафсаюзаў ФПБ паклала канец даўняй барацьбе з уладамі за душы і розумы сталічнага электарату.

**Рыгор БУЯН**

# Беларусь хоча гарантыяў

27 траўня ў Вільнюсе збіраецца вясновая сесія Парламенцкай асамблеі *NATO*. Сярод іншых пытанняў, па інфармацыі НАШАЙ СВАБОДЫ, верагодна 29 траўня камітэт грамадзянскай бяспекі ПА *NATO* разгледзіць «беларускае пытанне».

Вясновая сесія ПА *NATO*, арганізаваная Сеймам Літвы, пройдзе з 27 па 31 траўня. Літва імкнецца стаць паўнапраўным членам Паўночнаатлантычнага альянса, таму для яе гэты форум мае надзвычайнае значэнне. Літва хоча атрымаць запрашэнне ў *NATO* на сустрэчы кіраўнікоў дзяржаваў і ўрадаў альянса, якая пройдзе ўвосень 2002 года ў Празе. Мяркуецца, што на сесію прыедуць не менш за 800 парламентарыяў і гасцей з 19 краінаў – членаў *NATO* і 17 асацыяваных членаў Паўночнаатлантычнага альянса. Беларусь, насуперак традыцыі, будуць прадстаўляць не Мечыслаў Грыб і Анатоль Лябедзька (пасля лістападаўскага рэферэндуму 1996 года ПА *NATO* прыпыніла статус спецыяльна запрошанага для Беларусі, і на сесіі ў якасці *наглядальнікаў* запрашаліся менавіта М.Грыб і А.Лябедзька), а ганаровы старшыня АГП Станіслаў Багданкевіч ды старшыня галіновага прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу Аляксандр Ярашук. Паводле іншай інфармацыі, у Вільнюс едзе таксама Аляксандр Фядута – праўда, невядома, каго ён будзе прадстаўляць.

Станіслаў Багданкевіч сказаў НАШАЙ СВАБОДЗЕ, што на сесіі ПА *NATO* «я буду гаварыць пра тое, што адбываецца ў нашай краіне, што Беларусь хоча быць суверэннай, незалежнай краінай». «Я буду гаварыць пра тое, што Беларусь павінна аднавіць поўны нейтралітэт, не ўступаць ні ў якія ваенныя блокі, у тым ліку і ў *NATO*. Не ўступаць у ваенныя блокі і на Усходзе. Беларусь хацела б атрымаць пэўныя гарантыі нейтралітэту як з Масквы, так і з Бруселя. І яшчэ: я буду гаварыць, што неабходна скараціць памеры беларускага войска да памераў гвардыі – 30-40 тысячаў, а вызваленыя грошы аддаць на павышэнне пенсіяў для пенсіянераў».

**Рычард САРДЭЧНЫ**

# Усходнія візіцёры

*22 траўня Мінск наведалі старшыня Дзярждумы Расіі Генадзь Селязнёў, сакратар Саюзнай дзяржавы Павел Барадзін і старшыня Выканкама СНД Юрый Яраў*

Спікер Дзярждумы Расіі і адначасна спікер Парламенцкага сходу Расіі і Беларусі Генадзь Селязнёў сустрэўся з А.Лукашэнкам. Ягоны візіт меў афіцыйны характар, і Селязнёў таксама сустракаўся са старшынямі абедзвюх палатаў Нацыянальнага Сходу. Галоўнай тэмай гаворкі на гэтых сустрэчах была чарговая 18-я сесія Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі. А.Лукашэнка і Г.Селязнёў дамовіліся правесці яе на памежжы Беларусі з Польшчай у Гродне 4-5 чэрвеня. Па афіцыйных звестках, працяглая адтэрміноўка з пачаткам сесіі быццам звязаная з тым, што А.Лукашэнка мае намер выступіць перад саюзнымі парламентарыямі з пасланнем Вышэйшага дзяржаўнага савета, а падрыхтоўка такога дакумента патрабуе гіганцкай працы.

Адным з галоўных на гродзенскай сесіі будзе пытанне пра саюзны расійска-беларускі бюджэт і яго планаванне на 2002 год. Селязнёў у прамовах для журналістаў паведаміў, што гутарка пойдзе пра тое, «як размяркоўваць грашовыя патокі, каб яны былі празрыстымі, каб траплялі па прызначэнні». Аднак, прыходзіцца думаць, што зусім не бюджэтныя пытанні складуць галоўны змест сесіі.

Асноўным на гродзенскім паседжанні парламентарыяў, па прызнанні Г.Селязнёва, будзе пасланне Вышэйшага дзяржаўнага савета Парламенцкаму сходу. Гэты дакумент павінен даць ясную характарыстыку існуючаму стану Саюза, далёкім перспектывам яго развіцця. Найбольшую важнасць, па словах расійскага госця, набывае стварэнне заканадаўчай базы Саюзнай дзяржавы, выпрацоўка Канстытуцыйнага акта і маючых быць выбараў у сумесны расійска-беларускі парламент. Спікер Дзяржаўнай думы Расіі палічыў неабходным падкрэсліць, што размова ідзе канкрэтна пра канстытуцыйны акт, а не пра стварэнне канстытуцыі. «Канстытуцыя, – патлумачыў Г.Селязнёў, – гэта наступны крок, рэалізацыяй якога будзе неабходна заняцца пасля стварэння Саюзнай дзяржавы». На гэтую тэму ў Селязнёва адбылася гаворка з старшынёй палаты прадстаўнікоў НС РБ Вадзімам Паповым.

Ужо наступным днём на спецыяльным пленарным паседжанні Палаты прадстаўнікоў, прысвечаным міжнароднай дзейнасці ніжняй палаты беларускага парламента, В.Папоў паведаміў, што «асноўныя накіды» канстытуцыйнага акта трэба завершыць у трэцім квартале 2001 года. Пасля гэтага ён паступіць у Нацыянальны сход Беларусі і ў расійскую Дзярждуму, «каб іх можна было разглядаць і рухаць далей». Распрацоўкай канстытуцыйнага акта займаецца адмысловая беларуска-расійская група, у складзе якой дэпутаты парламентаў, прадстаўнікі адміністрацыяў прэзідэнтаў Беларусі і Расіі, дыпламаваныя юрысты.

Генадзь Селязнёў падчас наведвання ААТ «Керамін» выразшыў публічна зазначыць, што выбарчая прэзідэнцкая кампанія ў Беларусі ніяк не паўплывае на развіццё саюзных стасункаў з Расіяй. Бо, як шчыра падзяліўся спікер расійскай Дзярждумы сваім стаўленнем да Аляксандра Лукашэнкі, «на наша шчасце, ён з'яўляецца старшынёй Вышэйшага дзяржаўнага савета». Г.Селязнёў прызнаў, што ў расійскім урадзе існуе неадназначнае стаўленне да Саюзнай дзяржавы, і агучыў для беларускага слухача крытыку главы ўрада: «Не варта нашаму прэм'ер-міністру Касьянаву сёння скептыцызм выказваць у дачыненні да Саюза, таму што ён ёсць як бы нашым старшынёй Саюзнага ўрада. Яшчэ раз пачуем яго скептычныя пункты гледжання, жорстка паставім пытанне на Парламенцкім сходзе і ў Дзяржаўнай думе. Мы сёння бачым, што ідзе прабуксоўка ў дзейнасці нашых выканаўчых органаў». Наколькі ўдасца заткнуць рот Касьянаву, пакажа бліжэйшы час.



У гэты ж дзень А.Лукашэнка прыняў другога візіцёра – Паўла Барадзіна, з якім бачыўся перад тым тры дні падчас свайго выступлення ў Палацы Рэспублікі на сходзе. Па звестках прадстаўніцтва Пастаяннага камітэта саюзнай дзяржавы, Барадзін і Лукашэнка таксама абмяркоўвалі пытанні падрыхтоўкі 18-й сесіі ПС у Гродне. Дзяржсакратар Расійска-Беларускага саюза выказаўся за хутчэйшае прыняцце агульнай канстытуцыі. Па яго перакананні, «шмат вельмі сур'ёзных праектаў, у тым ліку інвестыцыйныя, затрымліваюцца і не рэалізуюцца з-за адсутнасці саюзнай прававой базы». Барадзін нібыта мае дадзеныя, што ёсць даволі многа жадаючых паўдзельнічаць у розных праектах, бо патэнцыйныя інвестары разумеюць, што ствараемая зараз расійска-беларуская дзяржава – гэта мост паміж Еўропай і Азіяй. Але інвестыцыйная актыўнасць здольная ўзрасці менавіта пасля прыняцця канстытуцыйнага акта. Паколькі канкрэтных дадзеных пра «патэнцыял інвестараў» не прыводзілася, дык салодкія абяцанні Паўла Барадзіна хутчэй за ўсё не адпавядаюць сапраўднасці, і канстытуцыйнае афармленне саюзнай дзяржавы патрабуецца пэўным колам болей, чым інвестары ў беларускую эканоміку.

З трэцім візіцёрам – старшынёй Выканкама СНД Юрыем Яравым – кіраўнік беларускай дзяржавы гутарыў пра выкананне рашэнняў папярэдняга саміта кіраўнікоў дзяржаваў СНД, якое адбылося ў Мінску ў снежні мінулага года, і пра Праграму дзеянняў для развіцця СНД на перыяд да 2005 года. Але галоўную ўвагу атрымала падрыхтоўка да саміта СНД, прызначанага на 31 траўня ў Мінску.

Такім чынам, напярэдадні пачатку кампаніі па выбарах новага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь уплывовае чынавенства не пакідае ўвагай Беларусь і , падобна на тое, хоча паставіць на ягонае захаванне пры ўладзе. Колькасць запланаваных мерапрыемстваў не дазволіць А.Лукашэнку ні на хвіліну пакінуць экран тэлевізара, што ў часе выбараў ёсць галоўным клопатам прэтэндэнтаў.

Калі Мінск адначасна наведваюць некалькі высокапастаўленых расійскіх чыноўнікаў, варта чакаць нечага такога, што атрымалася ў лістападзе 1996 года пасля візіту Строева, Селязнёва і Чарнамырдзіна.

**Адам ВАРАНОВІЧ**

# «Рэгіянальная Беларусь» арыентуецца на С.Домаша

26 траўня грамадскае аб'яднанне «Рэгіянальная Беларусь» збірае ў Мінску з'езд, які вызначыць свае адносіны да імкліва надыходзячых прэзідэнцкіх выбараў. Няма сумненняў, што «Рэгіянальная Беларусь» найактыўным чынам збіраецца ўдзельнічаць у прэзідэнцкай кампаніі і плануе падтрымаць свайго лідэра Сямёна Домаша.

З'езд плануецца правесці ў тры этапы. Першая частка прысвечаная аналізу сённяшняга стану грамадства і рэгіянальным арганізацыям. Асноўная частка форума – другая з сімвалічнай назвай «Што рабіць?». Менавіта на ёй мусяць быць агучаныя прапановы рэгіёнаў пра неабходнасць тэрміновага вылучэння адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад аб'яднанай апазіцыі, і што гэтым самым адзіным кандыдатам павінен быць менавіта Сямён Домаш.

**Юрась САЛАВЕЙ**



